PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ“ 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 11 (1818) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 17 САКАВІКА 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)

„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ '91“

## Калі беларусы пяюць ад душы...

Ні снежная зіма, ні палітычныя завірухі, ні цяжкія ўмовы будзённага жыцця не знеахвоцілі беларусаў спяваць. Можа, нават наадварот. Зрэшты, мабыць, гэтак ужо павялося ў нашым народзе, што б там ні было, а песня дапамагае жыць, лагодзіць боль, гуртуе людзей, дадае нам сілы. Пацвердзіў гэта ўжо ў каторы раз чарговы конкурс „Беларуская песня“, Цэнтральны агляд якога адбыўся 16 лютага ў будынку Беластоцкай філармоніі. Як падлічылі арганізатары, быў гэта ўжо 21 наш конкурс беларускай песні. Напярэдадні адбыліся раённыя агляды ў Беластоку, Гайнаўцы і Бельску.

Цэнтральны агляд аказаўся на вельмі высокім мастацкім узроўні. Сямігадзінны канцэрт-марафон (з двума кароткімі перапынкамі) трымаў слухачоў у настроі суладдзя і гармоніі з беларускай песняй, у прыемнасці супольнага перажывання нашага нацыянальнага пафасу, радасці ад высокага мастацтва. І не было хвіліны нуды, не здарылася ў мяне, як раней бывала часта, нават мімалётнай думкі пратэсту тыпу „Хто іх выпусціў на сцэну?!“ Ці то камісійныя рэшаты на раённых аглядах былі гусцейшыя, ці нашыя спевакі ўжо на тым узроўні, калі самі добра ведаюць свае шанцы, але шматгадзінны канцэрт праляцеў як адна гадзіна. Змяняліся выканаўцы, а кожны новы ўносіў у канцэрт нешта сваё асаблівае, непаўторнае. Выканана было 76 песень, і ні адна з іх не паўтарылася, а з мінулагодняга агляду — можа, толькі дзве-тры. Гучалі ў конкурсе папулярныя народныя песні, песні вядомых кампазітараў і ўласныя песні выканаўцаў. Выключна багата выпаў наш аўтэнтычны мясцовы фальклор.

Агляд сёлета быў вельмі масавым. Толькі ў Цэнтральным конкурсе выступіла ў розных групах, салістамі і ў хорах каля 160 чалавек, у тым ліку тры хоры — з Гайнаўкі, Беластока і Чыжоў. З вялікай прыкрасцю, нават болем у сэрцы адзначаю адсутнасць у сёлетнім аглядзе бельскіх „Васілёчкаў“. Гэты заслужаны для нашага мастацкага руху калектыў перажывае цяжкія хвіліны. Пад націскам непрыхільнай да беларусаў атмасферы, якую прабуюць рабіць некаторыя нававыспелыя ўраднікі Бельска, частка харыстаў знеахвоцілася, страціла энтузіязм і радасць з удзелу ў нашым мастацкім руху. Маю надзею, што „Васілёчкі“, столькі гадоў прапрацаваўшы разам, столькі сіл уклаўшы ў сваё супольнае існаванне, выстаяць у гэтай буры, выйдуць і з гэтага выпрабавання пераможцамі, а загартаваныя ў барацьбе за ўмацаванне нацыянальнай свядомасці, будуць яшчэ больш моцнымі і ўстойлівымі на неталерантнасць антыбеларускіх крыкуноў.

Апрача названых трох хораў, у конкурсе выступіла 9 салістаў, 8 дуэтаў, 2 трыо, 4 квартэты і аж 11 вакальных калектываў. Геаграфічна ўдзельнікі прадстаўлялі ўсю ўсходнюю Беласточчыну ад Гарадка да Мельніка (не даехалі, відаць, з-за засыпаных снегам дарог, спевакі з Хільмонаў, што на Дуброўшчыне), былі таксама групы ўдзельнікаў з Гданьска, Варшавы, а Ала Дубец — аж з Санока, куды кінуў яе з нашай Беласточчыны жыццёвы лёс.

Удзельнікі з Бельска, Беластока і Гайнаўкі ўжо традыцыйна працуюць з добрымі інструктарамі, вясковыя ж калектывы прабуюць радзіць сабе, хто як умее — знойдзецца музыкант, дык добра, а не — дык і самі паспяваюць, ім жа гэта не навіна. Яны ж усім сваім уменнем, галасістасцю, амаль падсвядомым адчуваннем музыкі сядзяць у народных спеўных традыцыях, у навыку многіх пакаленняў спявацць у шматгалоссі, калі ў кожнай вясковай кампаніі заўсёды ўмелі спяваць на некалькі галасоў, не гаворачы ўжо аб традыцыі вясковых царкоўных хораў. Мабыць, таму нашым людзям так проста і натуральна заглыбляцца ў самыя карані мясцовага фальклору, у глыбіню нашай беларускай спадчыны, у адшукоўванне найстарэйшых і найпрыгажэйшых песень, створаных стагоддзямі назад. Вось з такімі песнямі прыехалі на агляд жаночыя калектывы з Дабрывады, з Дашоў, Мельніка, Агароднічкаў і нават з Беластока. Звычайныя вясковыя гаспадыні з Дабрывады, без ніякай адукацыі, без інструктара сэрцам знаходзяць тыя залацінкі колішняга народнага мастацтва. Вялікае дзякуй ім за тыя кроплі гаючай вады з глыбінных крыніц нашага народа.

Зусім у іншым стылі спяваліся шырока папулярныя народныя песні ў апрацоўцы сучасных кампазітараў і музыкантаў. Зроблены яны так, каб падабаліся сённяшняму слухачу. Весела і з дзявочай задзёрыстасцю заспявала пад гукі народных інструментаў дзявочае трыо з Бельска. Іх жыццярадаснасць, вясёласць, рытмічнасць так разварушылі слухачоў, так уцягнулі іх у супольную забаву, што тыя зусім забыліся, што гэта конкурс, а не звычайны канцэрт, і не хацелі адпусціць дзяўчат са сцэны. У гэткім жа вясёлым, гуллівым стылі спявалі і салістка Люба Гаўрылюк з Беластока, і дуэты з Беластока і Ляўкова, і калектывы з Гайнаўкі, Беластока, Гарадка, Орлі і іншыя.

За найлепшае выкананне сучасных песень найбольшыя бравы атрымалі Ала Дубец з Санока і квартэт моладзі з Варшавы.

Ала Дубец жыве цяпер ад нас далёка, таму вышукоўвае песні, вельмі блізкія яе сэрцу, адарванаму ад бацькоўскага кутка. Памятаем, з якім пачуццём у мінулым годзе яна выказала свой сум па бацькаўшчыне. І сёлета яна пачала сваё выступленне песняй „Дом, дзе мы радзіліся“. Але калі яна заспявала аб трагічным лёсе хлопчыка з-пад Чарнобыля, які гуляе на вачах у маці кроплямі затрутага, смер-



*Лідзія Маліноўская з Бельска.*

(Працяг на стар. 6)



— 30 —

Ідэя беларускага кангрэсу мае значэнне ў аспекце патрэб беларускай рэгіянальнай самаўраднасці. Ужо цяпер адзываюцца пастулаты аб стварэнні Беларускай рады, якая „будзе мець выключнае права выступаць ад імя беларусаў у Польшчы“. Я асабіста выказваюся за раду кансультацыйнага характару, а буду выступаць супраць тварэння дырэктыўнага органа. Не можа прадстаўляць усіх беларусаў той орган, які не ўзнік з волі гэтых беларусаў, з волі, выказанай у шырокіх і тайных выбарах. У той сітуацыі, у якой жывем, права выступаць ад імя беларусаў маюць Сейм, Сенат, паслы Беластоцкай зямлі, ваяводскія і гмінныя рады, словам, усе тыя, хто быў выбраны ў тайных выбарах. Кангрэс, аб якім гаворым, і выбраны ім орган таксама не меў бы поўнага права прадстаўляць беларусаў. Калі б, аднак, аказалася, што ў кангрэсе прыняла б удзел вялікая колькасць дэлегатаў, якія прадстаўлялі б усе беларускія сацыяльныя і прафесіянальныя сілы, тады выбраны кангрэсам орган мог бы быць аўтарытэтным партнёрам да размоў з усімі дзяржаўнымі — як цэнтральнымі, так і рэгіянальнымі органамі ўлады. І вось з гэтай прычыны варта задумацца над ідэяй кангрэсаў і, калі толькі акажацца, што ідэя гэта карыстаецца падтрымкай з боку значнай колькасці беларусаў, тады трэба кангрэс склікаць. Зразумела, што маглі б у ім удзельнічаць усе існуючыя беларускія арганізацыі, а таксама

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

як найшырэйшая прадстаўніцтва беларусаў неарганізаваных. Не можа быць гутаркі аб нейкіх палітычных ці ідэалагічных крытэрыях падборкі дэлегатаў на кангрэс. Крытэрый можа быць толькі адзін — імкненне да захавання нацыянальнага, этнічнага і культурнага аблічча Усходняй Беласточчыны.

І тут даходзім да асноўнай загвоздкі ўсёй гэтай ідэі. Загвоздка заключаецца ў тым, як да ідэі кангрэсу аднясуцца радавыя беларусы. Сумненні адносяцца да таго, ці мы знойдзем у кожнай вёсцы адпаведна аўтарытэтных беларусаў, якія згодзяцца прыняць удзел у кангрэсе. Ёсць і яшчэ адна, праўда, другарадная справа, якая звязана з коштамі кангрэсу, на які, праўдападобна, ніякая дзяржаўная ўстанова не дасць грошай.

Галоўная, аднак, праблема звязана са спробай нацыянальнай актывізацыі беларусаў Усходняй Беласточчыны. Вядома, што пасля краху сацыялістычнай сістэмы і Польскай аб'яднанай рабочай партыі, сярод беларусаў паявілася вялікае палітычнае знеахвочанне. Беларусы вельмі скептычна глядзяць на ўсе партыі, незалежна ад таго, як яны называюцца і якія маюць праграмы. Сказанае адносіцца і да беларускіх партый. Здаецца мне, што незалежна ад таго, якая б узнікла сёння палітычная беларуская партыя, не магла б яна разлічваць на больш чым на некалькі дзесяткаў членаў на ўсёй Усходняй Беласточчыне. Стан гэты сведчыць аб узроўні беларускай нацыянальнай свядомасці. Сказанае не сведчыць аб тым, што беларусы не прызнаюцца да беларускасці. Прызнаюцца, але не праяўляюць гатоўнасці да фармальнай партыйнай прыналежнасці. Зразумела, што можна было б тут прымяніць хітры прыём, які прымянілі ўжо многія новыя партыі, гэта значыць, ліквідаваць партыйныя білеты, партыйныя спіскі і партыйныя ўзносы, складчыны. У такой сітуацыі беларускія партыі маглі б падаваць давольна вялікую колькасць членаў для падтрымання міфу аб сваёй масавасці. Аднак вядома, што такі шлях гэта шлях, які вядзе ў нікуды. Баюся, што ідэя кангрэсу можа быць патрактавана беларусамі як спроба стварэння партыі. І калі так станецца, дык можам спадзявацца, што зацікаўленне кангрэсам можа быць кампраметуюча малым. І гэта была б поўная кампраметацыя прыгожай ідэі. І таму неабходная дыскусія, спатканні, размовы, высвятленні, развейванне сумненняў. Ці ўдасца нам усё гэта правесці так, як трэба, ці ўдасца давесці да станоўчага выніку? На гэта пытанне не адкажа ніводзін мудрэц. Патрэбны высілак вялікай плеяды беларусаў добрай волі, якія будуць кіравацца не асабістымі амбіцыямі і кар'ерамі, а кардынальнымі інтарэсамі ўсіх беларусаў у Польшчы.

**Алесь Барскі**

# З мінулага тыдня

**Латвія і Эстонія хочуць незалежнасці.** Вынікі нядаўняга плебісцыта паказваюць, што рашучая большасць жыхароў гэтых рэспублік выказваецца за іх суверэнітэт. Хаця вынікі не маюць юрыдычнай сілы, то аднак з'яўляюцца важным указаннем для ўрадаў рэспублік.

**Трое літоўскіх журналістаў аб'явіла галадоўку** перад будынкам тэлевізійнага цэнтра ў Вільні. Дамагаюцца яны спыніць акупацыю цэнтра савецкімі войскамі.

**Сеймавыя камісіі:** нацыянальных і этнічных меншасцяў, а таксама сувязяў з палякамі ў замежжы супольна **з групай дэпутатаў Вярхоўнага Савета Украіны** вынеслі прапанову стварыць пастаянную камісію, якая будзе займацца вывучэннем пытанняў палякаў на Украіне і украінцаў у Польшчы.

**Міністр нацыянальнай абароны віцэ-адмірал Пётр Каладзейчык** паведаміў на прэс-канферэнцыі, што ўжо пачалася дыслакацыя ваенных часцей з захаду краіны на ўсход. Міністр сказаў, што ўжо паўгода рыхтуецца аперацыйны план узмацнення ўсходняй граніцы ў сувязі з магчымай некантраляванай міграцыяй.

**Рада Міністраў** вырашыла перадаць з рэзерву бюджэту Управы Рады Міністраў суму 238 мільярдаў злотых на палагоджанне коштаў візіту **папы Яна Паўла II** у Польшчу.

**Міністэрства нацыянальнай адукацыі** звярнулася з заклікам да куратораў асветы і выхавання павысіць як найхутчэй зарплаты для настаўнікаў і асветных працаўнікоў. На гэту мэту ўжо выдзелены адпаведныя грошы. Заробкі настаўнікаў узрастуць на 19 працэнтаў у параўнанні з IV кварталам мінулага года.

**Ідэю „адкрытага універсітэта“ без уступных экзаменаў** не ўдалося ажыццявіць у гэтым годзе, сказаў на прэс-канферэнцыі рэктар Варшаўскага універсітэта **праф. Анджэй Врублеўскі.** Прычынай гэтаму з'яўляюцца неадпаведная база і кансерватызм акадэмічнага асяроддзя. У наступным годзе лік студэнтаў-першакурснікаў будзе падобны на мінулагодні — каля 3 тысяч. Будзе, аднак, магчымасць павялічыць лік прынятых на 10-20 працэнтаў. Далей будуць абавязваць уступныя экзамены, хаця ўжо ў абмежаванай форме. **Дзевяць напрамкаў: класічная, украінская і беларуская філалогіі, геалогія, фізіка і астраномія, грамадскія навукі на стацыянарах, а таксама бібліятэказнаўства і грамадская прафілактыка на завочных аддзяленнях** будуць даступны без экзаменаў. На 15 напрамках будуць традыцыйныя экзамены, а на 19 — зменены. Найчасцей будзе гэта экзамен пісьмовы, а замест вуснага — кваліфікацыйная размова з кандыдатам.

**Калектыў саўгаса ў Мельніку** аб'явіў папераджальную забастоўку. Рабочыя не атрымалі зарплаты за студзень і люты. Накіравалі яны пісьмо Беластоцкаму ваяводу з патрабаваннем высвятліць далейшы лёс прадпрыемства.

**У Беластоку адбудзецца конкурс на найпрыгажэйшую жанчыну.** Званне „Міс Падляшша '91“ заваявала **Дарота Купрэвіч.**

## ЗАПРАШЭННЕ

**Галоўнае праўленне БГКТ сардэчна запрашае на цэнтральны агляд дзіцячых школьных тэатраў, якія адбудзецца ў Гайнаўскім Доме культуры ў суботу 16 сакавіка г.г. Пачатак а 10 гадзіне.**

# БЕЛАСТОК '91

Некалькі месяцаў таму назад у беластоцкім друку з'явіліся інфармацыі аб плане перанесці фестываль савецкай песні з Зялёнай Гуры ў Беласток і аб перамовах у гэтай справе з гарадскімі і ваяводскімі ўладамі. Прапанавалася памяняць не толькі месца фестывалю, але і яго форму. Зараз ужо вядома, што **Фестываль беларускай, літоўскай, рускай і ўкраінскай песні „БЕЛАСТОК '91“** адбудзецца ў днях **19—21 верасня** ў **Беластоку.**

Фестываль і конкурс арганізуе Саюз польскіх аўтараў і кампазітараў ЗАКР супольна з Міністэрствам культуры і мастацтва, Ваяводскай управай у Беластоку і Аб'яднаннем гульнявых прадпрыемстваў. Дзеля правядзення конкурсу створаны арганізацыйна-артыстычны штаб з музыкантаў і літаратараў.

У правілах конкурсу значыцца, што мае ён агульнапольскі характар і з'яўляецца шматступенным мерапрыемствам. Прадбачваюцца падставовыя (у гмінах), ваяводскія, занальныя элімінацыі і фінал, які будзе часткай фестывалю. У конкурсе могуць прымаць удзел выканаўцы-аматары: спевакі, вакальныя групы да актэта ўключна і вакальна-інструментальныя калектывы. Узрост удзельнікаў — ад 16 да 30 гадоў. **Кожны з** удзельнікаў павінен падрыхтаваць дзве песні, з якіх адна абавязкова мусіць быць выбрана з рэпертуару, прапанаванага арганізатарамі. Пажадана, каб песні выконваліся на польскай мове, але дапускаецца выкананне і на мове арыгінала. Арганізатары элімінацыі забяспечваюць удзельнікам акампанемент. Пасля занальных элімінацый журы праводзіць адабранне рэпертуару і можа прапанаваць яго змену тым выканаўцам, якія пераходзяць да фіналу.

Арганізатарамі ваяводскіх элімінацый з'яўляюцца Ваяводскія дамы культуры. Павінны яны закончыцца да 15 мая. У выніку ваяводскіх элімінацый толькі двое ўдзельнікаў можа быць накіравана на занальныя элімінацыі, якія будуць праводзіцца ў Інаўроцлаве і Тарнове ў першай палове чэрвеня. Лаўрэаты гэтых апошніх будуць удзельнічаць у другой палове жніўня ў мастацкіх артыстычных варштатах.

Ва ўсіх справах, звязаных з конкурсам і фестывалем, можна звяртацца на такі адрас: **Związek Polskich Autorów i Kompozytorów ZAKR, Warszawa, ul. Hipoteczna 2,** tel. 635-17-04, centr. 27-60-61 wewn. 144, 172, 146, 246.

# На спатканне з папам

Прадбачваецца, што 5 чэрвеня г.г. у Беласток на спатканне з папам Янам Паўлам II прыедзе звыш 50 тысяч пілігрымаў з-за ўсходняй мяжы. У час нядаўняй сустрэчы шэфаў Беластоцкага ваяводства і Гродзенскай вобласці пастаноўлена, што выезды ў Польшчу будзе арганізоўваць Каталіцкі касцёл на Беларусі. З 220 існуючых там парафій прыедуць у Беласток па 2 аўтобусы. Большасць паломнікаў будзе падарожнічаць цягнікамі або ісці пехатою. Польскае Міністэрства камунікацыі абяцае перавезці ўсіх пілігрымаў з вакзалаў у Гродне і Брэсце польскімі цягнікамі. Вырашана таксама на час пераезду аўтобусаў з Беларусі адкрыць пагранічныя пункты ў Баброўніках, Ліпшчанах, Чаромсе і Ялаўцы. (ПАП)

# НАСТУПСТВЫ Рыжскага трактата

18 сакавіка г.г. мінае 70 гадоў з таго часу, калі прадстаўнікі польскага і бальшавіцкага (расійскага) урадаў падпісалі ў Рызе трактат, які канчаў польска-савецкую вайну. Перамовы над падрыхтоўкай пагаднення пра мяжу, якая раздзяляла б гэтыя дзве дзяржавы, вяліся ўжо ад верасня 1920 г. І хоць на перамовах вырашаўся і лёс спрадвечных земель беларускага народа, пра думку беларусаў наконт гэтага ніхто не пытаўся. Суседзі дзялілі беларускую зямлю паводле сваіх патрэбаў і інтарэсаў.

Спачатку Ленін прапанаваў палякам узяць усю Беларусь — узамен за пашырэнне Расіі на захад за кошт украінскай тэрыторыі. Аднак у той час у польскай палітыцы пераважаў эндэцкі погляд: Польшча можа ўзяць на ўсходзе толькі такі арэал, які будзе ў стане хутка асімілёваць у польскасці. Уся Беларусь, паводле варшаўскай дэлегацыі, была заваялікім абшарам, і будучыня тае асіміляцыі здавалася дужа няпэўнай. Таму амаль паўгадовыя перамовы закончыліся кампрамісам. Заходнія абшары атрымала Польшча, а Міншчына, Віцебшчына і Смаленшчына засталіся на савецкім баку.

Паводле падпісанага ў сакавіку 1921 г. трактата, на ўсход ад рыжскай мяжы былі Беларусь і Украіна, а на захад — Польшча. Чацвёрты артыкул гэтага дакумента гаварыў, што на тэрыторыі Расіі і Украіны пражываюць таксама і палякі, а на тэрыторыі Польшчы — украінцы і расейцы. Згодна з логікай гэтага паразумення, нацыі такой, як беларусы, на захад ад Мінска не існавала. У сапраўднасці, па савецкі бок мяжы жыло каля 6 мільёнаў беларусаў, а ў міжваеннай Польшчы — 2 мільёны.

Вышэй прыведзеныя факты больш-менш усім вядомыя, аднак не ўсе ўсведамляюць сабе, што рыжскі трактат перакрэсліў усе намаганні беларусаў у напрамку тварэння ўласнай незалежнай дзяржаўнасці.

Пра палітычнае і культурнае адраджэнне беларусаў да І сусветнай вайны ды пра дзейнасць беларускіх палітыкаў падчас тае вайны шмат ужо пісалася, так што падрабязна не будзем на гэтым запыняцца. Спрыяльная беларусам палітыка нямецкага акупанта стварыла ўмовы дзеля развіцця школьніцтва, культуры і выдавецкай дзейнасці на роднай мове. Гэтае адраджэнне было настолькі глыбокае, што ў красавіку 1917 г., у выніку паразумення паміж некалькімі партыямі і арганізацыямі, магло дайсці да І Беларускага Нацыянальнага З'езда. Сярод удзельнікаў гэтага форума дамінавала інтэлігенцыя (пераважна сялянскага паходжання), але былі таксама святары, арыстакраты, работнікі і сяляне. З'езд разглядаў некалькі канцэпцыяў будучыні Беларусі — ад аўтаноміі ў межах Расіі да дзяржаўнай незалежнасці.

Утвораны З'ездам Нацыянальны Камітэт кіраваў беларускім грамадска-палітычным жыццём да восені 1917 г. 5 лістапада была ўтворана рада, якая мела заняцца арганізаваннем беларускай арміі. Аднак стварэнне арміі — найважнейшага чынніка абароны нацыянальных інтарэсаў — засталося ў сферы намераў. 7 лістапада бальшавіцкія камісары пры дапамозе дэмаралізаванай расейскай арміі пераняли ўладу ў Мінску.

Беларускія дзеячы цалкам сур'ёзна патрактавалі лозунг камуністаў аб „самавызначэнні народаў". 14 снежня 1917 г., з дазволу камісара нацыянальных спраў Сталіна, у Мінску пачаў працу Беларускі Кангрэс, у якім удзельнічалі 1872 дэлегаты з усёй Беларусі. Калі выявілася, што Кангрэс у аніякім выпадку не хоча падпарадкавацца бальшавікам, а большасць яго ўдзельнікаў выказвае цца за незалежнасць, бальшавікі разагналі яго. Удзельнікі Кангрэсу паспелі яшчэ стварыць Раду, якая сталася чымсьці накшталт зародкавага парламента, і Народны Сакратарыят, які адыграў ролю беларускага ўрада. 25 сакавіка 1918 г. Рада абвясціла незалежную Беларускую Народную Рэспубліку і пераўтварыла Сакратарыят у Савет Міністраў на чале з прэзідэнтам Антонам Луцкевічам. Тэрыторыя БНР ахоплівала Міншчыну, Віленшчыну, Гродзеншчыну (з Беластокам), Віцебшчыну, Смаленшчыну і Чарнігаўшчыну.

Прысутнасць на Беларусі акупацыйнай нямецкай арміі спрыяла стварэнню дзяржаўных беларускіх структураў на тэрыторыі, пазначанай Радай БНР. Узнікала адміністрацыя, развівалася гаспадарчая, асветніцкая і культурная дзейнасць, інспіраваная ўрадам Луцкевіча. БНР была прызнана незалежнай дзяржавай урадамі маладых рэспублік — Украіны і Літвы.

Каб абараніць незалежнасць, ураду Луцкевіча патрэбна была армія ды афіцыйнае прызнанне на міжнародным форуме, перад усім з боку моцных суседзяў — Польшчы і Расіі. Але і Польшча і Расія глядзелі на Беларусь як на сваю патэнцыяльную здабычу. Польска-савецкая вайна вясною 1919 г. сталася пачаткам канца толькі што створанай беларускай дзяржаўнасці.

У палітыцы лічацца толькі інтарэсы, а інтарэсы Польшчы і Савецкай Расіі супалі ў тым пагадненні, якое было падпісана 18 сакавіка 1921 г. у Рызе.

25 верасня 1921 г. у чэшскай Празе пачалася нарада беларускіх партый, якая пастановы рыжскага трактата назвала акупацыяй Беларусі і прыняла адозву з заклікам да барацьбы за еднасць і незалежнасць Бацькаўшчыны. Становішча беларускага ўрада, які ад 1919 г. прабываў на літоўскай зямлі, было такое самае.

Адносіны беларусаў да рыжскага трактата выявіліся не толькі ў адозвах, дэкларацыях і пратэстах. На ўсходнім баку рыжскай мяжы, на слуцкай зямлі, выбухнула паўстанне, інспіраванае ўдзельнікамі пражскай нарады. Бальшавікі ўтапілі Слуцкае паўстанне ў моры крыві. На тэрыторыі Польшчы ўзнік беларускі партызанскі рух, які пры падтрымцы з Літвы існаваў да 1925 г., пакуль КПЗБ, выконваючы загад Камінтэрна, не давяла да яго ліквідацыі.

Беласточчына была адным з больш актыўных рэгіёнаў барацьбы супроць пастаноў рыжскага трактата. У маі 1923 г. у беластоцкім судзе адбыўся вялікі працэс 45-ці беларускіх канспіратараў. Сярод іх была арганізатарка паўстанчага руху на гэтай зямлі — Вера Маслоўская. Адказваючы на пракурорскае абвінавачанне ў злачынстве супроць польскай дзяржавы, яна гаварыла: „Я рабіла ўсё тое, што раней рабілі польскія патрыёты. Змагалася, каб мая Бацькаўшчына была вольная і ўз'ядналая".

Ні адна беларуская партыя ў міжваеннай Польшчы не акцэптавала падзелу Беларусі. Беларускія палітыкі, бачачы паразнаму будучыню свае Бацькаўшчыны, у адным былі згодны — народ павінен мець сваю дзяржаву. Трыццатыя гады паказалі, якім трагічным гэты недахоп аказаўся для беларускай нацыі.

Разам з іншымі народамі ўсходняй Еўропы беларусы на пачатку XX стагоддзя ўчынілі спробу пабудовы ўласнай дзяржавы. Аказалася аднак, што беларускі нацыянальны патэнцыял быў заслабы, каб супрацьстаяць імперыяльным пасяганням суседзяў. Рыжскі трактат не толькі спыніў працэс стварэння беларускай дзяржаўнасці, але і забіў надзею на тое, што, будучы слабым сярод моцных, можна дабіцца справядлівасці і пазбегчы пагарды з іх боку.

**Яўген Міранавіч.**

# ПІШУ НА МОВЕ ПЕРШАЙ

**У нядзелю, 24 лютага, Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" наладзіла сустрэчу з Зосяй Сачко, аўтаркай зборніка вершаў „Над днём похіляна", што выйшаў як чарговая — пасля зборнікаў Надзеі Артымовіч і Уладзіміра Гайдука — кніжачка ў бібліятэцы абноўленага (гэта значыць, юрыдычна зарэгістраванага ды засіленага сякім-такім грашом) літаб'яднання. Гэта ўжо другі зборнічак на творчым уліку З. Сачко. У 1982 годзе былі апубліканы ейныя „Пошукі".**

**З увагі на тое, што сябры „Белавежы" пабачылі і маглі набыць новы зборнік З. Сачко якраз на самой сустрэчы (цана экземпляра — 5000 зл.; здаецца, што купецкі разлік старшыні „Белавежы" заража пашырэнне творчых здзяйсненняў аб'яднання сярод так званага масавага чытача), размова пайшла перш за ўсё пра... мову зборніка, а не пра ягоны змест. Зося Сачко піша вершы на адным з варыянтаў палескай гаворкі — на тым канкрэтна, які бытуе ў яе роднай вёсцы на Бельшчыне і разам з безліччу „вясковых варыянтаў" складае пярэсты моўны краявід паўднёвай Беласточчыны. Значыць, піша на мове першай, з якой пайшла ў свет, за парог бацькоўскага дому, і ў якой той свет успрымае на ўзроўні паэтычнага асэнсавання. Выбар, пэўна, невыпадковы: у „Пошуках" мы маем вершы і на беларускай літаратурнай мове, „Над днём похіляна" — запіс выключна на гаворцы.**

**Г. Валкавыцкі напомніў удзельнікам сустрэчы, што якраз „Ніва" дала пачатак гэтай плыні ў беларускай літаратуры, публікуючы, і то нямала, паэтычных тэкстаў на палескіх гаворках. Акрамя З. Сачко шмат апублікавалі, для прыкладу, І. Баравік і І. Кірызюк.**

**В. Швед выказаў уголас некаторыя сумненні, якія ўзнікаюць у беластоцкім асяроддзі наконт „успрымальнага статусу" творчасці на гаворках. Па-першае, вузкадыялектны статус мовы як бы аб'ектыўна памяшчае гэтую літаратурную з'яву на маргіналіях агульнага літаратурнага працэсу, абмяжоўваючы значна кола чытачоў. Па-другое, брак строгага лінгвістычнага вызначэння статусу гэтых гаворак дае повад усялякім гістарычна-культурным і палітычным спекуляцыям ды падтасоўкам, што тычыцца этнічнага беларуска-ўкраінскага размежавання.**

**С. Яновіч, станоўча адносячыся да пісьменства на дыялектах і гаворках, падкрэсліў, што пра маргінальнасць творчасці пісьменніка сведчыць не мова, якую той ужывае, а ўзровень мастацкага слова. Узровень З. Сачко дае падставы меркаваць, што маем дачыненне з аўтарам не маргінальным і не выпадковым. Калі гаварыць пра тое, якія падручнікі па гісторыі літаратуры „анектуюць" сабе палескую творчасць, дык трэба мець на ўвазе, што вырашальным чыннікам у такіх выпадках з'яўляецца супольнасць гістарычна-культурнага лёсу як саміх аўтараў, так і іхніх чытачоў. Прыкладаў на гэта мы знойдзем нямала ў шмат якіх „устойлівых" еўрапейскіх літаратурах, дзе творчасць на дыялектах успрымаецца як нармальная з'ява, якая, звыш таго, сведчыць пра мацату і стабільнасць літаратуры на агульнанацыянальнай мове. У гэтым кантэксце паэзія З. Сачко — доказ стабільнасці і жыццяздольнасці беларускай літаратуры.**

**Тут выказаў сваю думку я — Я. Максімюк, — прапануючы ўвесці ў крытычна-літаратурны арсенал новую боегалоўку — тэрмін „панбеларуская літаратура", маючы на ўвазе, безумоўна, паралелі з „панкельцкай супольнасцю". Як кожная новая ідэя генеральнага абсягу, гэтая мая прапанова была прынята, мякка кажучы, з насцярогай.**

**Я. Чыквін, які быў складальнікам зборніка З. Сачко, звярнуў увагу прысутных на афарыстычнасць паэтычнага мыслення паэтэсы, што падмацаваў загадзя нарыхтаванымі цытатамі. Гэта як бы прыцягнула ўвагу „белавежцаў" да саміх тэкстаў і падтэкстаў Зосінай паэзіі і надало размове новага маху. Калі памятаю, мы ўстанавілі, што існуе выразная сувязь між кардынальнымі метафізічнымі пытаннямі чалавечага лёсу і лёсу лірычнага суб'екта ейных вершаў.**

**Сама Зося Сачко, наслухаўшыся пра сябе як не трэба лепш, быццам незнарок прагаварылася, што дужа сур'ёзна задумоўвалася калісьці, ці не здабываць ёй вышэйшую адукацыю на тэалагічным факультэце. О!**

**ЯН МАКСІМЮК**

„Ніва"
17.III.1991 г.

# ПАРНАСІК
## чытальніцкая літстудыя на негарантаваных пах

*Шаноўны мой сябар „Ніва"! Звяртаецца да цябе твой даўні чытач з нізкай сваіх вершаў. Хацела б я пабачыць іх на старонках тыднёвіка. З'явілася я на свет у вёсцы Падстарыны Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Жыву ў Баранавічах. Пішу вершы даўно, з дзіцячых год. Прымаю ўдзел у літаратурным аб'яднанні пры рэдакцыі раённай газеты.*

*Ганарар ахвярую на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы.*

### МАТЧЫНА МОВА

Калі пачынала я разумець,
Першыя словы пачула!
Мама, дачушка, Радзіма — гучэла.

Ад сэрца, з душы —
Як спрадвеку вякоў!
Я матчына першае
Адчула цяпло і любоў
Да нашай Радзімы,
Да роднага краю,
Да птушак і гаю...

З дзіцячых гадоў мне
У сэрца, у душу ляглі
Спеў птушак і сонца...
Такі дарагі,
Што мне засталося
Навек, назаўжды!

Водыр духмяных лугоў,
І матчына мова,
І мова народа, —
Паўстала нібы з берагоў!

Я родную мову
Айчынай называю!
Дзе не бываю —
Родную мову
Не пакідаю.

**Браніслава Лапкоўская**
г. Баранавічы

## Свойскія малюнкі



*Беласток. Вул. Ліповая. Малюнак У. Петрука.*

### ГІНУЦЬ ІКОНЫ

Мінулі месяцы ад пакражы ікон з праваслаўнага манастыра ў Яблачыне, а зладзеі далей на свабодзе. У такой сітуацыі епіскап Люблінскі і Холмскі Авел чарговы ўжо раз звярнуўся з заклікам да грамадства дапамагчы ўстанавіць злачынцаў. Асобам, якія сваімі інфармацыямі дапамогуць вярнуць іконы, уладыка ўстанавіў узнагароду — 100 мільёнаў злотых.

**Андрэй Гаўрылюк**

## З ДРУКУ

### ЦІ Ж НАША „НИВА"?

У студзені газетныя каталогі рэспублікі дапоўніла новая назва — „Белорусская нива". Такая метамарфоза адбылася з выданнем ЦК КПБ і Саюза аграрнікаў БССР „Сельская газета". Некаму, мабыць, закарцела прадоўжыць традыцыі „Нашай Нівы", ці паспаборнічаць на чытацкім рынку з беластоцкай „Нівай"...

Але ці прарастуць зярняты, што сее журналісцкая брыгада „Белорусской нивы", на беларускай ніве? Здаецца мне, што маем мы чарговы прыклад новазапаветнага падання аб сейбіце, толькі ў гэтым выпадку зерне не адпавядае глебе — і таму сумніцельна, ці будзе ўраджай... Ці не вялікая рызыка ў выдаўцоў „Белорусской нивы", прэтэнзіі якіх самыя глабальныя?

*(„Літаратура і мастацтва" № 6 ад 8 лютага 1991 г.)*

# Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

### 9. КАЛІ АМЕРЫКА АШАЛАМЛЯЕ...

Амерыка ашаламляе прыезджага толькі на самым пачатку — пакуль ён не прывык яшчэ да добрага, да якога наогул людзі прывыкаюць даволі хутка. Кепскага, хіба толькі апрача брудануватых нью-йоркскіх вуліц, турыст, які мае добрых апекуноў, адразу не заўважыць.

Перш за ўсё ўражвае тэхніка, аўтамабілі, аўтаматы, вялізныя, мігаючыя рознымі колерамі рэкламы — усё ў бясконцым руху, усё блішчыць, дае знаць аб сабе, некуды імчыцца...

З часам, праўда, пачынае перашкаджаць паветра, поўнае спаліная, чорны асфальт усюды, ды нават фабрыкі і фабрычкі на кожным кроку, размешчаныя найчасцей ля добрых дарог. Але ўсё гэта не засланяе прыбышу вобраз краіны, цалкам іншай ад нашай у сэнсе тэхнічнага аснашчэння і прагрэсу, асабліва ў штодзённым жыцці.

Славік, пляменнік Сяргея Карніловіча, любіць вазіць нас з „Полацка" на абед у рэстаран „Пандэроза". Хлопец тут ужо паўгода і яму аж карціць, каб і нам тут спадабалася. Пэўна, у нас такіх рэстаранаў няма. Уваходзім, Сяргей або Славік плацяць за кожнага з нас па 4,4 або па 6,6 долараў (у залежнасці ад пары дня, вечарам — даражэй) — і можам сядзець там аж да вечара ды есці колькі і чаго толькі захочаш.

А ёсць усяго. Мне здалося, што было тут не менш тысячы страў. Адных салатаў і фруктаў розных мо з пяцьдзесят гатункаў, а яшчэ ж і мясное, і бульба, і клёцкі, і фасоля, і дэсерты на чале з некалькімі гатункамі марожанага, і напіткі па выбару! Падыходзь сабе і кладзі што хочаш хоць на дзесяць талерак, і пі якія хочаш напіткі і бяры хоць пятнаццаць дэсертаў.

Але колькі чалавек можа з'есці?! Панавальвалі мы поўныя талеркі (я ўзяла сабе асабліва многа зяляніны), а вазьмі ж яго з'еш! Пакаштаваць жа хочацца ўсяго. Папакідалі на талерках у першы дзень шмат. Але на другі дзень ужо ведалі, што возьмеш замнога — нічога не з'ясі, ды, зрэшты, кожны ўжо спраўдзіў, што яму смакуе, і тое толькі браў. Відаць, гаспадары добра аблічылі, што колькі каштуе і што чалавек у стане з'есці, дык ведаюць, што гэты бізнес ім аплочваецца.

Славік усё перапытвае: „Ну як, наеліся?!", хаця і сам добра ведае, што не наесціся ў „Пандэрозе" немагчыма. А мы з Маргарытай Пыровай і Галяй Прыма асабліва націскаем на фрукты. Хто б там браў бананы, калі вінаграду поўна — і чорнага, і белага, і круглага, і прадаўгаватага, і дыня — белая, зялёная, ружовая, і грушы, і персікі, і апельсіны, і г.д., і т.п. — такога мноства фруктаў у нас не ўбачыш, а тым больш у рэстаране. Дык ямо, тады ўстаем, бярэм дакладку, тады ізноў. Думаю, што за такі абед у нас бы ў рэстаране і 15 долараў чалавек заплаціў па сённяшніх нашых „еўрапейскіх" цэнах. Зрэшты, па цэнах мы цяпер першыя ў Еўропе! Во, калі б яшчэ заробкі падраўнялі хаця б да „еўрапейскіх", бо пра амерыканскія нельга пакуль што марыць — трэ было б павысіць іх разоў у дваццаць.

У памяці застаўся яшчэ хітрун-аўтамат з рознымі напіткамі, што стаяў у „Пандэрозе". Націскаеш кнопку з надпісам „кока-кола" — і ліецца „кока-кола", націскаеш кнопку з надпісам „апельсінны сок" — і ліецца сок, а хочаш мінеральную ваду — будзе вада. Хочучы ўзяць на дарогу нечага напіцца (мы ехалі якраз на Ніягарскі вадаспад), падставілі мы бутэлечкі пад кнопку з „кока-колай". А тут Фядот ды ня тот! Бяжыць звычайная газіроўка. Аўтамат адразу адчуў нашы няшчырыя інтэнцыі (відаць, налівае што трэба толькі ў шклянку!). А хочаш на дарогу ўзяць — хопіць і газіроўкі.

Прыемна пасядзець у такім рэстаране; чысценька тут, парадак, ветлівая абслуга, якая ў момант прыбірае брудны посуд, кліматызацыя, павейвае халадком. Кліматызацыя, ці, як кажуць тутэйшыя беларусы, „эйркандышан", тут усюды. Няхай бы яе тут не было, кажа Славік, у гэты рэстаран вельмі хутка перасталі б прыходзіць людзі. Ну, бо і хто ж тут будзе сядзець і пацець, калі можна пайсці ў рэстаран побач. Канкурэнцыя не спіць! А паглядзіце на магазіны, працягвае Славік. Усе яны нізенькія, аднапавярховыя. Хто ж пайшоў бы вышэй?! І тут таксама канкурэнцыя несамавітая.

Калі мы ўжо пры Кліўлендзе, дык варта яшчэ сказаць пра тутэйшыя гатэлі. Давялося мне жыць у двух матэлях. Звонку — зусім звычайныя, а ў сярэдзіне чысціня, новенькая мэбля, кліматызацыя, вельмі зручныя ложкі, а найважнейшае — нідзе нічога паламанага. Вядома, усюды каляровыя тэлевізары і... нічога лішняга. Чысціня і парадачак у ванне, так быццам бы тут ніхто ніколі не мыўся. Да дна ванны прыклеены палоскі як бы пластыру, каб не паслізнуцца! Вада ў ракавіне сыходзіць вельмі ціхенька, але без ніякіх праблем. А вось корак у ванне: напаўняецца ванна вадою — корак сам шчыльна затыкае дзірку. Націскаеш кнопку — і корак выскаквае назад, а вада пачынае сыходзіць. Не трэба, як у нас, пільнаваць ланцужок, каб хаця не парваўся.

Краны ў Амерыцы гэта асобны раздзел. Прыезджага захапляюць яны сваёй шматграннасцю. Можна іх закручваць і адкручваць, выцягваць і прыціскаць, паднімаць уверх і апускаць, зводзіць і разводзіць, нахіляць ва ўсе бакі, рэгулюючы цяпло і колькасць вады. Паэзія!

А туалеты! Калісьці мне здавалася, што найчысцейшы ў свеце публічны туалет я бачыла ў лонданскім метро. Будучы ў Амерыцы, я пераканалася, што іхнія туалеты не ўступаюць заходнееўрапейскім. Асаблівае ўражанне пакінулі на мне аўтобусы з туалетамі ў сярэдзіне без мінімальнага непрыемнага

# НАШЫ КАРАНІ

## IV. НАШ РАДАВОД

У той час, калі ў Кіеве і суседніх з ім усходнеславянскіх землях паганскі князь Алег і яго дружына распраўляліся з хрысціянскімі абшчынамі, навука ў адзінага Госпада Бога пашыралася ў славянскай Вялікамараўскай дзяржаве. Гэтая дзяржава паўстала пры князі Майміры каля 830 года на тэрыторыі цяперашняе Маравіі (цэнтральная частка сённяшняй Чэшскай і Славацкай Рэспублікі), узмоцнілася ў часы панавання князя Расціслава (846-870) і дасягнула найбольшага тэрытарыяльнага абсягу і магутнасці пры князі Святаполку (870-895), аднак пры яго сынах занепала і яе землі трапілі пад уладу суседзяў: немцаў, чэхаў і венграў.

Якраз князь Расціслаў, каб паўстрымаць націск Нямеччыны таксама і ў царкоўных справах, запрасіў у 864 годзе з Канстанцінопаля ў сваю дзяржаву місію выдатных прапаведнікаў навукі Хрыстовай з Візантыі на чале з братамі Кірылам і Мяфодзіем.

Варта прыпомніць, што Кірыла і Мяфодзій — „першанастаўнікі славенскія“ як справядліва велічае іх наша Царква — паходзілі з Салуні (Салонікаў), былі выдатнымі вучонымі, вынаходцамі (у асноўным Кірыла) славянскага алфавіту (глаголіцы), першымі найбольш плённымі перакладчыкамі Свяшчэннага Пісання на мову славянскага племя драгувітаў, якія насялялі наваколле Салуні, стваральнікамі славянскай літургіі, набажэнстваў, якія адпраўляюцца яшчэ і цяпер у нашай Царкве. Дзякуючы актыўнай дзейнасці іхняй місіі хрысціянства грэцкага абраду хутка пашыралася ў Вялікамараўскай дзяржаве, а Свяшчэннае Пісанне і набажэнствы на славянскай мове спрыялі зразуменню і прыняццю глыбока да сэрца вучэння Хрыста.

У часы панавання князя Святаполка ўсходнія граніцы магутнай і абшырнай дзяржавы дасягалі верхняга цячэння ракі Стыр і сярэдняга Буга. Значыць, землі сённяшняга паўднёвага Падляшша ўваходзілі ў яе склад і тут пашыралі сваю хрысціянізацыйную дзейнасць вучні роўнаапостальных Кірылы і Мяфодзія. Кіраваў іх на гэтыя землі са сталічнага Веляграду, у якім знаходзілася кафедра архіепіскапа Мяфодзія, сам архіепіскап.

На тое, што менавіта сюды, на Падляшша і Валынь, Мяфодзіевы вучні ішлі з хрысціянізацыйнымі місіямі найбольш ахвотна і дзейнасць іхняя прыносіла шчодры плён, уплывала шэраг варункаў. Перш за ўсё да іхняй дзейнасці ў заходняй частцы Вялікамараўскай дзяржавы варожа адносілася нямецкае духавенства, яно ўсялякімі спосабамі праследавала славянскую праваслаўную Літургію і яе пашыральнікаў. Таму выхаванцы Кірылы і Мяфодзія падаваліся на ўсход дзяржавы і па-за яе ўсходнія межы, бо туды не сягалі ўплывы нямецкага лацінскага духавенства. Затым аснова перакладаў Свяшчэннага Пісання і мова Літургіі — гэта ж гаворка славянскага племя драгувітаў. Салунскія драгувіты складалі адгалінаванне беларускіх дрыгавічоў. Яны завандравалі ў Паўднёвую Македонію, відаць, падчас вялікага націску славян на Візантыю ў VI-VII стагоддзях. Таму кірыла-мяфодзіеўскія місіі на Валыні і Падляшшы напэўна сустракаліся з вялікай прыхільнасцю, бо Хрыстовая навука прапаведвалася імі на вельмі блізкай мове валынян і амаль роднай мове дрыгавічоў, што насялялі Сярэдняе Пабужжа. Да часу дзейнасці гэтых місій трэба, відаць, аднесці хрысціянскую магілку з другой паловы IX стагоддзя, якую археолагі адкрылі паблізу вёскі Наройкі каля Сямяцічаў на Пабужжы. Мяфодзіевы вучні — гэта былі, мабыць, перш за ўсё манахі. Таму напрошваецца меркаванне, што ўжо ў канцы IX і на пачатку X стагоддзяў маглі ўзнікаць на Пабужжы не толькі хрысціянскія абшчыны і цэрквы, але і невялікія манастыры.

Значыць, Праваслаўе на Беласточчыне паходзіць ад роўнаапостальных „настаўнікаў славенскіх“ св. св. Кірылы і Мяфодзія.

**Мікола Гайдук**

---

запаху, а таксама туалеты на паркінгах. Едучы з Кліўленда ў Чыкага па добрай асфальтаванай дарозе, хаця відаць было, што зямля тут не надта ўраджайная і даволі бедная, мы спыніліся раптам у прыдарожным заездзе. Навокал поле, а мы — у „Еўропе“. У бары можаш з'есці што хочаш. У аўтаматах можаш за ўкінутую манету атрымаць цукеркі, пячэнне, арэшкі і іншыя прысмакі, можаш напіцца нейкага напітку або гарачага булёну. І туалет: беленькія сцены, усюды чысціня, адмысловыя і не сапсаваныя краны, сыходзячая ва ўсіх ракавінах вада. Як не хапае нам яшчэ гэтага!

У нас, расказвае Сяргей Карніловіч, маючы на думцы менавіта нас, а не іх, людзі імкнуцца ў цэнтр горада, бо там жыць зручней. А тут наадварот, белыя ўцякаюць за горад, дзе чысцейшае паветра, а іх месца займаюць чорныя, канстатуе ён, паказваючы нам Кліўленд.

Горад мае ў сваім уладанні, працягвае Сяргей, малыя аўтобусікі. Калі, напрыклад, старая пенсіянерка хоча паехаць у магазін, яна звоніць, і да яе пад'язджае такі аўтобусік і вязе, куды ёй трэба, бясплатна. Бясплатна пенсіянер можа падсілкавацца ў спецыяльных рэстаранах, якія ўтрымоўвае горад. Алкаголікаў тут таксама палічылі за хворых. Горад нават плоціць уласнікам кватэр грошы, каб яны не выкінулі алкаголікаў на брук, бо найчасцей на кватэрную плату ім грошай не хапае. Нават даюць ім вопратку і харчы. Так аблічылі, што яшчэ большую шкоду яны прыносяць гораду, чым сабе, падсумоўвае Сяргей, везучы нас на сваёй машыне.

Да добрых рэчаў прывыкаеш хутка і хутка перастаеш іх заўважаць. Аднак, і там не ўсё такое ружовае, як бы здавалася на першы погляд.

*(Працяг будзе)*

**Ада Чачуга**

**Фота аўтара**



*Чыкага захапляе сваімі небаскробамі.*

---

# Мінулае Заблудава

Горад Заблудаў ляжыць на правым беразе ракі Рудня, у 19 км на паўднёвы ўсход ад Беластока. Раней была тут Блудаўская пушча і таму гораду далі назву *Заблудово*.

Першыя ўпамінанні пра Заблудаў паходзяць з 1525 года і адносяцца да надання каралём Сігізмундам Старым Блудаўскай пушчы Аляксандру Хадкевічу, маршалку гаспадарскаму, які потым стаў навагрудскім ваяводам (пра Заблудаў пішацца і ў іншых публікацыях з 1507 года). У 1563 годзе гетман Рыгор Хадкевіч пабудаваў у Заблудаве касцёл, царкву, прыцаркоўную школу і прытулак для бедных („бальніцу“). Горад быў асяродкам вялікіх зямельных заблудаўскіх маёмасцей. У 1567 годзе Хадкевіч заснаваў беларускую друкарню, якую вялі Пятро Мсціславец і Іван Фёдараў. Па Хадкевічах Заблудаў пераходзіў ва ўладанне магнацкіх родаў: Пацаў, Ляшчынскіх, Сангушкаў, а ад 1598 года да Радзівілаў, наступна да Дэмбінскіх, Мантойфляў.

Пры Хадкевічах Заблудаў быў асяродкам рэфармацыі ў Рэчыпаспалітай, а Кшыштаф Радзівіл уфундаваў у Заблудаве кальвінскі збор і заснаваў фальварак для збору, які назвалі Рафалаўкай (гэта мясцовасць існуе непадалёк ад горада). Пастар збору быў сеньёрам падляшскім, нягледзячы на тое, што Заблудаў знаходзіўся на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. У 1662 годзе пад апекай князя Багуслава Радзівіла скрываліся ў Заблудаве арыяне: Збігнеў Моршцін, Самуэль Межынскі і Мацей Пжыпкоўскі. Збор існаваў да 1860 года. Праўдападобна, тут адбыўся апошні сінод у Рэчыпаспалітай.

У 1654 годзе адноўлена ў Заблудаве гарадское права (магдэбургскае). У горадзе пасяліліся яўрэі і шатландцы, а ў XVIII стагоддзі адзін з іх стаў бурмістрам горада. У тым часе паўстаюць цэхі: ганчароў, шаўцоў, краўцоў, кавалёў. Яўрэі мелі ў Заблудаве свой кагал (гміну). У 1635 годзе Кжыштаф Радзівіл дазволіў яўрэям будаваць сінагогу і бальніцу. Да 1795 года Заблудаў быў у Гродзенскім павеце Троцкага ваяводства. Пасля трэцяга разбору Польшчы Заблудаў апынуўся ў Прусіі, у Беластоцкім павеце, а ў 1807 годзе трапіў пад уладанне Расіі. Забудова горада была дрэнная, але горад быў рухлівы. Прускі спіс паказвае, што ў горадзе было 297 дамоў і 1409 жыхароў. У XIX стагоддзі Заблудаў стаўся прамысловым асяродкам. У 1857 годзе была тут ткацкая мануфактура з 16 рабочымі, хатнія ткацкія варштаты і гарбарні. Пад канец XIX стагоддзя горад лічыў 4000 жыхароў, у тым ліку 2500 яўрэяў. Апрача тэкстыльнай прадукцыі, заблудаўцы займаліся гадоўляй быдла, продажам мяса, вырабам грэцкай, ячменнай і аўсянай крупы. Было тут 2 млыны і 5 гарбарняў. У год адбывалася аж 6 ярмарак.

У 1931 годзе горад налічваў 3158 жыхароў. У часе II сусветнай вайны Заблудаў быў знішчаны ў 50 прац., зусім зруйнаваны былі гарбарні, спалена драўляная сінагога, помнік драўлянага будаўніцтва з XVII стагоддзя, а яўрэі былі зусім знішчаны фашыстамі.

**М. Ляшчынскі**




**Шаноўныя спадары!**

Учора ў мясцовай газеце прачытаў я рэкламу пра ваш тыднёвік, а сёння ў кіёску набыў пяты нумар. Я ведаў, што ў Польшчы жывуць беларусы, але не ведаў, што ў вас навучаюць беларускую мову. Навучаюць, у адрозненне ад нас, беларусаў, пражываючых на Беларусі. Я сам беларус, але не ведаю добра роднай мовы, я размаўляю на ёй, як на замежнай, падбіраючы словы. Гэта ж вельмі дрэнна не ведаць мовы продкаў, мне сорамна за гэта, але нас адвучылі за 70 гадоў савецкай улады ведаць і любіць яе. Беларусы ў Саюзе гэта, можа, адзіны народ, які не размаўляе між сабой на роднай мове. Калі я быў у войску, дык бачыў такую карціну, што ўзбекі, казахі, грузіны і іншыя нацыянальнасці размаўляюць між сабой на роднай мове, і толькі браткі-беларусы — не. Я сам размаўляю па-руску, таму што ў нас у горадзе практычна ўсе гэтак робяць. Але я вельмі жадаю, каб надышоў такі момант, каб усе беларусы разам пачалі гаварыць па-беларуску.

Я вельмі хацеў бы мець сяброў-беларусаў у Польшчы. Мне 24 гады, я жанаты. Мне вельмі падабаецца маладзёжная музыка, збіраю грамплацінкі з запісамі амерыканскіх і англійскіх рок- і поп-гуртаў. Жадаў бы пазнаёміцца з юнаком або дзяўчынай, падзяляючых мае зацікаўленні, або з маладой сям'ёй, жадаючых абменьвацца ўзаемнымі паездкамі адзін да аднаго.

Мой адрас: **220047, г. Мінск, вул. Ангарская, д. 52 кв. 27 Крыштапову Віктару.**

* ✲ *

Мой брат Шаранкоў Міхаіл Іосіфавіч служыў камандзірам разліку 498 стралковага палка 132 стралковай дывізіі, якая 5 лютага 1945 года вяла дзеянні ў раёне населеных пунктаў Хармельсдорф і Пройсенсдорф, якія знаходзіліся адпаведна ў 13, 12 кіламетрах на паўднёвы захад ад горада Дейч-Кроне, цяпер Валч.

У гэты ж дзень брат загінуў і пахаваны ў населеным пункце Хайсендорф. Вядома, цяпер назва населенага пункта другая, але мясцовыя жыхары магчыма ведаюць, у якую назву перайменаваны Хайсендорф.

Магчыма, вашы супрацоўнікі будуць у тых мясцінах, або праз сваіх актывістаў я прашу вас, паважаны рэдактар, даведацца ці ёсць магіла майго брата і ў якім яна стане.

Пра вашу рэдакцыю я даведаўся з перадачы па беларускаму тэлебачанню, якая была арганізавана Уладзімірам Коласам 13 лютага гэтага года з Беласточчыны.

Вельмі буду ўдзячны за адказ.

**Васіль Ніканоравіч Кушняроў, 212001, г. Магілёў,**

**вул. Першамайская 97.**

**Ад рэдакцыі.** Нашых чытачоў просім дапамагчы Васілю Кушнярову. А можа труд высветліць справу ўзялі б нашы сябры з Гданьска? Вельмі просім!

# Калі беларусы пяюць ад душы...

**(Працяг са стар. 1)**

цяноснага дажджу, голас яе, заўсёды такі мілы і мяккі, узнёсся да вышыні такога трагізму, што публіка замерла: спазмы сцялі горла, дрыжыкі пайшлі па скуры: Чарнобыль — вось яна, незавінёная і неадольная трагедыя нашага народа.

І варшаўскі квартэт змароз'ў слухачоў трагізмам свайго выканання. Глыбока трагічная сучасная мелодыя ў нямецкі уражваючым, непаўторным выканан ні. Быў гэта рэквіем у памяці беларускай вёсцы Залешаны на Бельшчыне, расстралянай і спаленай у першыя дні пасля вызвалення ад гітлераўскай акупацыі толькі за тое, што была беларускай. Вёску Залешаны спасціг той самы лёс, што і вёску Зані, аб якой у мінулым годзе ў „Ніве" пісаў Ян Максімюк у артыкуле „Попел і памяць". Месяцам пазней гэты артыкул перадрукавала мінская „Літаратура і мастацтва".

Маладыя людзі з варшаўскага квартэта ўпершыню пачулі гэтую песню невядомага аўтара



*Ала Дубец з Санока.*



*Трыо „Маланка" з Бельска.*



*Квартэт з Дабрывады.*



*Квартэт з Варшавы: сёстры Эля і Оля Сушко, Пятро Куробка і Ірыней Лаўрашук.*

ў Дашах, і яна моцна кранула іх чулыя сэрцы. Пад кіраўніцтвам Ірынея Лаўрашука квартэт зрабіў з гэтай песні высокамастацкі твор. Сёстры Оля і Эля Сушко, Пятро Куробка і Ірыней Лаўрашук сваім квартэтам моцным, пераможным акцэнтам увайшлі на беларускую сцэну. Хацелася б пажадаць квартэту гэткіх жа поспехаў і ў далейшай працы.

Зусім новую, але як жа блізкую сэрцу нашага слухача песню адкрыў нам дуэт з Бельска — Яўгенія Коршак і Юрка Селівановіч. Словы песні

*Калі беларусы пяюць ад душы,*
*Дык ім салавей падпявае...*

выказаныя з такім пачуццём, з такой лірыкай, што песня гэтая мае ўсе шанцы стаць у нас чарговым шлягерам.

З прыемнасцю хачу падкрэсліць значны ўдзел моладзі ў сёлетнім конкурсе: па дзве маладзёжныя групы выступілі з Бельска і Гайнаўкі, дуэт з Беластока, квартэт з Варшавы, калектыў з Гданьска і шмат маладых салістаў. А гэта значыць, што наш беларускі мастацкі рух не старэе, развіваецца, расце. Адукаваная, здольная моладзь уносіць свой стыль, дух свайго часу, карыстаючыся традыцыяй бацькоў і дзядоў. З маладых салістаў асабліва хочацца назваць траіх: Лідзію Маліноўскую з Бельска, Элю Бэзюк з Варшавы і Адама Жарначука з Рыбалаў.

Лідзія Маліноўская — галасістая, вясёлая, усім сваім целам успрымае музыку, вызваленая ад страху перад публікай, бо ўмее ёю завалодаць, павесці за сабою.

Эля Бэзюк — прадстаўніца новага стылю моладзі, экстравагантна-сучасная, з нібы-абыякавай манерай паводзін і з неадменнай для гэтага стылю гітарай. Яе слухачы — студэнцкая публіка з галёркі. Эля — іх бард.


Дуэт з Ляшукоў.


Удзельніцы калектыву з Гарадка.

Адам Жарначук — хлопец з вялікім талентам. Але яго вялізныя вакальныя магчымасці патрабуюць апекі спецыялістаў. Хлопец толькі ў мінулым годзе скончыў вясковую школу. Каб удалося трапіць у нейкую музычную школу, ён мог бы марыць пра кар'еру прафесійнага спевака. Толькі хто ім зоймецца? Хто яму паможа? Вось каб удалося выслаць яго вучыцца ў Беларусь!

Вельмі высокім узроўнем папісаўся сёлета ўжо не новы калектыў „Цаглінкі" са Старога Ляўкова. Вельмі ж галасістыя ўсе яны, хоць спяваюць а капэла, вельмі добрая ў іх гармонія галасоў.

Добрае слова можна сказаць і пра жаночыя калектывы з Беластока, Гайнаўкі, Гарадка. Ажывіўся ў апошні час вельмі стары і заслужаны для нашага руху калектыў з Орлі. Трошкі менш удана, чым у мінулыя гады, выступілі „Хлопцы-рыбалоўцы". Неяк было іх менш на сцэне, можа таму і спявалі яны з меншым энтузіязмам. Не ўдалося мне з імі перагаварыць пасля конкурсу, але, як здаецца, нешта ў гэтым калектыве рэарганізуецца, нібы калектыў адмалоджваецца. Мабыць, гэта ў яго нейкае хвілёвае абніжэнне тонусу. Ведаючы Мікалая Ігнацюка — душу калектыву і аўтара ўсіх песень, якія калектыў спявае, веру, што мы яшчэ іх не адзін раз пачуем у добрай форме.

Усе калектывы выступілі вельмі цікава. Агляд быў багаты, цудоўна ўсе калектывы ў нас ужо апрануты, вельмі свежы, багаты і цудоўны рэпертуар. Абавязкова трэба неяк распаўсюдзіць песні на касетах у нашым асяроддзі. Думаю, што ніхто не пашкадуе грошай, каб такую касету купіць. Таму і вялікія клопаты мелі арганізатары канцэртаў лаўрэатаў, каб змясціцца ў вызначаным для двух канцэртаў часе. І гэтыя канцэрты, як і трэба было спадзявацца, сталі ў Беластоку чарговым беларускім святам, трыумфам беларускай песні.

З рэпарцёрскага абавязку падаю яшчэ членаў журы Цэнтральнага агляду „Беларуская песня '91":

Старшыня — выкладчык музычнай школы ў Беластоку, шматгадовы наглядальнік нашых конкурсаў Ежы Сьрудкоўскі. Члены: Уладзімір Сяргейчык — дырэктар Гродзенскага вучылішча культуры і выкладчык музыкі па класу баяна; Уладзімір Радаліцкі — выкладчык харавых прадметаў Гродзенскага вучылішча культуры; Юрка Шапель — выкладчык музычнай школы ў Беластоку і я, былы журналіст „Нівы".


Калектыў „Каліна" з Дашоў.

А вось вынікі конкурсу:

**СЯРОД САЛІСТАЎ**

**у сучаснай песні:**

І месца і ўзнагарода „Нівы" — Ала Дубец з Санока,
II — Лідзія Маліноўская з Бельска,
III — Адам Жарначук з Рыбалаў.

Вылучаны Юрка Налівайка — за інтэрпрэтацыю патрыятычнай песні і Альжбета Бэзюк — за арыгінальнае выкананне аўтарскай песні.

**у фальклоры:**

I — Люба Гаўрылюк з Беластока,
II — Галіна Карбоўская з Беластока,
III — Міхась Артышэвіч з Кляшчэляў.

Вылучана за выкананне вельмі старой песні Ніна Аўгустыновіч з Агароднічкаў.

**СЯРОД ДУЭТАЎ, ТРЫО І КВАРТЭТАЎ**

**у сучаснай песні:**

I — квартэт з Варшавы,
II — падзялілі дуэт з Бельска (Яўгенія Коршак і Юрка Селівановіч) і трыо „Ікос" з Гайнаўкі,
III — дуэт (Люба Гаўрылюк і Яўгенія Астапчук) з Беластока,

**у фальклорнай песні:**

I — дзявочае трыо з Бельска,
II — падзялілі дуэт з Ляўкова (Вера Осяк і Аляксандр Харкевіч) і квартэт з Чыжоў.
III — квартэт з Мельніка.

**ВАКАЛЬНЫЯ ГРУПЫ**

**у сучаснай песні:**

I — падзялілі актэт з Гайнаўкі і „Цаглінкі" з Ляўкова.
II — „Жаваранкі" з Гданьска,
III — жаночая група з Орлі,

**у фальклоры:**

**за аўтэнтычны, неапрацаваны фальклор**

I — Дабрывада,
II — Краснае Сяло,
III — падзялілі Дашы і Чыжы,

**за апрацаваны фальклор:**

I — жаночая група з Беластока,
II — Гарадок.

**ХОРЫ**

I — Гайнаўка,
II — Беласток,
III — Чыжы.

Праз год — чарговы агляд. Але ўжо гэтым летам удзельнікі агляду сустрэнуцца на Фестывалі беларускай песні ў Беластоку.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота Сяргея Грыняціцкага.**


„Цаглінкі" з Ляўкова Старога.

# Крымінальная хроніка

Раённы пракурор у Гайнаўцы ўзбудзіў следства ў справе забойства Ніны С. Часова арыштаваны Пятро О. (27 гадоў, кавалер, бяздзетны, шафёр па прафесіі, раней не караны) і Ян Х. (40 гадоў, таксама бяздзетны, кавалер, шафёр, не караны), якія абвінавачваюцца ў тым, што 30 лістапада 1990 г. у лесе каля вёскі Ванева (гміна Нарва) напалі на Ніну С. і нанеслі ёй пакалечанне родных органаў, што давяло да крывацёку, а ў выніку да смерці.

* ✲ *

Ваяводскі пракурор у Беластоку накіраваў у Ваяводскі суд абвінаваўчы акт супраць Марка А. (44 гады, жанаты, двое дзяцей, не працуе), які ад верасня 1988 г. да 31 жніўня 1990 г. здзекваўся фізічна і маральна над канкубінай Ялантай К., а ноччу з 30 на 31 жніўня 1990 г. так набіў яе па галаве, што тая ў выніку пабояў памерла.

* ✲ *

Ваяводскі пракурор накіраваў у Раённы суд у Беластоку абвінаваўчы акт супраць 17 турэмных наглядчыкаў, якія абвінавачваюцца ў тым, што 11 і 12 снежня 1989 г. у Следчым арышце ў Беластоку збілі 66 зняволеных. Ніхто з турэмных службоўцаў у часе следства не прызнаўся да віны.

* ✲ *

Ваяводскі суд у Беластоку прыгаварыў Андрэя М. на 7 гадоў зняволення, 7 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў і 1 мільён злотых штрафу за тое, што двойчы ўдарыў нажом у жывот і раз у твар Генрыка С. (чым выклікаў працяглую хваробу) і забраў у яго 40 тысяч злотых.

## Хто вінаваты?

— Ну і моладзь цяпер! Нагледзіцца гэтых розных фільмаў аб сексе, мордабоях, гарорах і робіць невядома што — рабуюць, б'юць, дзяўчаты рана зацяжарваюць, а пасля няраз забіваюць дзяцей.

— Хто вінаваты, што так ёсць? Бацькі, і толькі бацькі! Нашто дазваляюць глядзець такія фільмы малалеткам? Як дзеці дарослыя, год 19 ці 20, то можна на такое глядзець, а вучням пачатковых і сярэдніх школ — абсалютна нельга. Не разумею, нашто даваць падлетку кучу грошай і не пытаць, што за іх зробіць... Колькі маладых пазычае відэа і аглядае фільмы аб усялякіх паскудствах!

— Не толькі бацькі. У тэлевізары таксама паказваюць розныя глупствы. Удзень паказваюць такія фільмы аб каханні! Нашто гэта? Моладзь на гэта глядзіць, і вучыцца Бог ведае чаму.

— Ой! Вінавата і сама моладзь. Задобра ёй. Рабіць нічога не робіць, грошы маюць, то і выдумляюць розныя фокусы. Каб працавалі так, як калісь, то такіх цыркаў адхацелася б...

**Аўрора**




## З СЕЛЯДЦОЎ

### СВЕЖЫЯ СЕЛЯДЦЫ З МАРЫНАДАМ

На паўкілаграма свежых селядцоў трэба ўзяць шклянку белага сухога віна, паўшклянкі віннага воцату, 10 дэкаў морквы, 10 дэкаў цыбулі, 3 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі з зялёнай цыбулькай, соль, перац, лаўровы лісток, англійскае зелле.

Селядцы памыць, зняць з іх скурку, зрэзаць філе, пасыпаць перцам. Ачысціць моркву, спаласнуць, нарэзаць тоненькімі скрылёчкамі. Абабраць цыбулю, нарэзаць яе паўкружкамі. У каструльку ўліць віно і вінны воцат, дадаць англійскае зелле, соль, лаўровы лісток і некалькі зярнят перцу, а таксама пятрушку з зялёнай цыбулькай, цыбулю і моркву. Варыць пад крышкай каля 10 мінут. У кіпецень палажыць падрыхтаванае філе з селядца. Каструльку паставіць на малы агонь і варыць пад крышкай мінут 15. Зняць з агню. Пакінуць пад пакрыўкай, каб селядцы астылі, а пасля ўставіць страву ў халадзільнік. Калі будуць зусім халодныя, тады пералажыць на талерку, прыбраць.

### СЕЛЯДЦЫ „АМАТАРСКІЯ"

На 50 дэкаў селядцоў трэба ўзяць 30 дэкаў цыбулі, 4 лыжкі алею, лімонны сок, або чатыры-пяць лыжак віннага воцату, некалькі гваздзік, соль, перац, лаўровы лісток, цукар, муштарду.

Вымачаныя селядцы спаласнуць, зняць з іх скурку, выразаць філе. Кожны кавалак старанна памазаць муштардай, а пасля гэтага цесна скруціць у рулецік. Абабраць цыбулю, нарэзаць яе тоненькімі пер'ямі, крыху пасаліць, палажыць у каструльку, дадаць алею і 5 мінут тушыць. Тады дадаць лімонны сок ці вінны воцат і прыправы. Закіпяціць. Падрыхтаваныя селядцовыя рулецікі складаць у слоікі, перакладваючы іх астуджанай цыбуляй. Слоік зачыніць і пакінуць у халадзільніку на 24 гадзіны.

### СЕЛЯДЦОВЫ КРЭМ

На 5 дэкаў філе з салоных, вымачаных і ачышчаных селядцоў узяць 10 дэкаў тлушчу з шынкі, 10 дэкаў цыбулі, перац.

Селядцы дробненька пасячы з тлушчам, які аднімем ад шынкі. Тады дадаць сцертую на бульбяной тарцы цыбулю і ўсё расцерці на аднастайную масу. Дадаць перцу. Гэткая паста падыходзіць да бутэрбродаў, зверху варта яе пасыпаць пасечанай зелянінай.

**Гаспадыня**




Дарагое Сэрцайка, на мяне пагневалася сяброўка. Мы ўжо немаладыя жанчыны, нам каля сарака год — і мне і ёй. Сябравалі мы даўно і сардэчна яшчэ са школьных гадоў. Я выйшла замуж, нарадзіла сына, і ўсё ў маім жыцці ўкладаецца някепска. А яна, хаця ў маладосці мела вельмі вялікі поспех у мужчын, чамусьці засталася дзеўкай. З усяго таго пачала залівачь сваю роспач гарэлкай. Не давяло гэта да добрага — трапіла праз нейкі час у бальніцу ў Харошчы, на псіхіятрычнае аддзяленне. Я вельмі перажывала яе хваробу, але пасля курсу лячэння ў гэтай бальніцы яна зусім змяніла спосаб жыцця як бы аджыла, аднавілася і зноў адчула сябе маладой. Перастала піць, пачала сустракацца з мужчынамі. Аднак пасля ўсяго таго, што яна прайшла, ніводзін з іх не прапанаваў ёй выйсці за яго замуж.

Аднойчы сказала мне, што зайздросціць мне і ўсім, каму ў жыцці павязло, і што сумна ёй без дзіцяці. І запыталася ў мяне, што б я сказала на тое, калі б яна нарадзіла дзіця без мужа. Ну, што ж, кажу, цяпер многія жанчыны нараджаюць дзяцей, не маючы мужа. Пэўна, і ты дзіця выхаваеш сама, а ўнясе яно табе ў тваё аднастайнае жыццё шмат радасці. На гэтым размова скончылася.

Мінула паўгода, як я заўважыла, што мая сяброўка пачынае таўсцець. Я кінулася да яе ў абдымкі, а яна, заціснуўшы свіцер на сваім жываце, спыталася: „Ну, як я табе падабаюся?!" У яе пытанні быў ужо і адказ. Так, яна прыгожая, бо яна спадзяецца дзіцяці, яна гераіня, бо дасць жыццё новай істоце, не аглядаючыся на тое, што ўсяго з некім пераспалася і не мае мужа. Я бачыла ў яе вачах шчасце і не мела найменшых падстаў, каб расчароўваць яе, гаворачы аб тым, што можа чакаць яе ў будучыні.

Мы сустракаліся штораз радзей. Мая сяброўка пасля працы ішла адразу дахаты, не адчувала сябе, зрэшты, занадта добра. Сустрэла я яе, калі яна была ўжо ў дзевятым месяцы цяжарнасці. Спыталася я: „Ну, як?" „Як бачыш, я ўсё яшчэ дзеўка", — сказала яна маркотна. Я аслупянела. Яна ж заўсёды гаварыла, што не збіраецца выходзіць замуж, калі выраішыць нарадзіць дзіця. Пераконвала мяне, што найважнейшае гэта нарадзіць дзіця, а мужчын на свеце многа. І таму я была вельмі здзіўлена. Я ж адразу запыталася, ці будзе жаніцца з ёй бацька гэтага дзіцяці, а яна мне адказала, што ён далёка, працуе, кахае і вельмі ўцешыўся, што будзе дзіця. І раптам цяпер я даведваюся, што гэта ён не схацеў ажаніцца з ёю! Мне было вельмі прыкра і шкада яе.

Калі прыйшоў ёй час радзіць, я занялася ёй так сардэчна, як толькі магла. Бегала ў бальніцу, прыйшла купаць дзіця, калі вярнулася яна дахаты. Я ж ведала, што яе бацькі далёка і не прыедуць памагчы ёй. Але ў адносінах маёй сяброўкі я заўважыла нейкі холад. Дні яе сталі хаця не такія адзінокія, дык намнога цяжэйшыя і няпэўныя. Яна, уся раздражненая, злосная на цэлы свет, аднойчы сказала мне, каб не я, дык наогул не рашылася б нарадзіць дзіця без мужа. Сэрцайка, мне за яе баліць душа. Скажы, ці ёсць тут мая віна?

**Валерыя**

Валерыя! Думаю, што тваёй віны тут няма. Ты проста паверыла сваёй сяброўцы, што дзіця ашчасліве яе. А яна аказалася звычайнай бабай, якая, як і ўсе, хацела б выйсці замуж і мець нармальную сям'ю. Наогул многія жанчыны, якія ідуць на такую рызыку, не цалкам здаюць сабе справу з таго жыцця, якое чакае іх у будучыні. А жыццё самотнай маці часамі ператвараецца ў пекла. Бачыш, усё ж такі яна мела надзею, што той хлапец з ёю ажэніцца. Але, відаць, не ўмела прыцягнуць яго моцна да сябе.

Нездарма людзі кажуць: „Не хочаш мець ворагаў — не давай добрых рад".

**Сэрцайка**




Сніцца мне, што мая дачка стаіць на панадворку на вёсцы (там яе сядзіба па бацьку). Бачыць, ідзе бацька (ужо даўно не жыве) і яна яго запрашае дахаты. У гэты момант з хаты выходжу я. Я невідомая, з белай палкай у руцэ. Дачка кажа бацьку: „Маці не бачыць, страціла зрок". Муж падышоў да мяне, прылажыў галаву да маіх грудзей і сказаў: „О Божа", — і з жалю нада мною заплакаў.

Другі сон. Прысніўся мне мой першы муж (памёр даўно). Я іду, бачу: стаіць крыж — высокі, пастаўлены на яго магіле. Потым муж апынуўся каля мяне, стаіць блізка. Я думаю: чаго ён так блізка стаіць?

**Марыя**

Дарагі Астроне, сніцца мне, што я знаходжуся ў вялікай зале — святліцы ў электроўні. Там многа свяшчэннікаў, а самы галоўны, высокапастаўлены духоўны ўручае мне падарунак — нейкую шафку. Я адкрыў дзверцы, а там яна падзелена на дзве часткі. Што гэта такое?

**Юрка**

Марыя! Твой першы сон пра тое, што ты была невідомая, абазначае, што мучыць цябе нешта невядомае, нечага спадзяешся, ды не ведаеш, як што станецца. Наогул павінна быць усё па тваёй думцы, хаця не абыдзецца без клопатаў. Бацька ў сне абазначае клопат, аднак жа муж твой з жалю над табою заплакаў, а гэта ўжо абазначала б паварот спраў на лепшае.

Што датычыцца другога сну, дык магу табе сказаць, што крыж абазначае нейкі сум, прыкрасць. Аднак жа быў ён пастаўлены на магіле твайго мужа, а могілкі наогул абазначаюць у канцы супакоенне.

Юрка! Твой сон абазначае, што будзеш мець нейкі прыбытак. Атрымліваць падарункі — чакай прыбытку, даваць падарункі — непрыемнасць.

**Астрон**

# Зорка

## Старонка для дзяцей

Яўгенія Пфляўмбаум

* * *

Дрэву кожнаму — вясна,
А бярозе — боль:
Слёзы лье ў пакутных снах,
Слёзы без патоль.

Раняць белую кару
Скваплівыя нажы,
Сок распырскваецца з рук
І ручвом бяжыць.

Што ты дзееш, чалавек,
Калі ты з людзей, —
Пакідаючы на здзек, —
Вецце без надзей?



*Ідзе вясна. Малюнак Ады Сяменюк (6,5 г.) з Беластока.*



*Дзяўчынка сказала лесу...*

ЯЎГЕНІЯ ПФЛЯЎМБАЎМ

## Дзяўчынка

**— Я знаю, чаго я плачу, — дзяўчынка сказала лесу,**
**І ён зразумеў адразу, дыхнуў цеплынёю хвой,**
**Расінкі павевам лёгкім з павек завільжэлых стрэсаў**
**І нешта шамрэў ласкава, на вуха шаптаў малой.**

**Іх цяжка пазнаць і змераць, згрызоты душы дзіцячай,**
**У тлуме жыцця, у стоме не згледзіць і матчын зрок.**

**— Не знаю, чаго ты плачаш?!**
**— Я знаю, чаго я плачу...**
**Самотніца! Ўжо трымае маўчання святы зарок.**

Алена Кобец-Філімонава

## Сем мастакоў

У адным горадзе жылі-былі сем мастакоў. Горад, у якім яны жылі, быў вельмі змрочны. Таму што над ім віселі шэрыя хмары. І ад іх на ўвесь горад падаў шэры цень. З-за хмар не было відаць аранжавага сонца. Не было відаць зялёнай лістоты. Не было відаць блакітных нябёс. І ўсё, што малявалі мастакі, было шэрым і непрыгожым. Яны ж думалі, што неба можа быць толькі шэрага колеру. І лісце толькі шэрага колеру. І ўсё наўкол — толькі шэрага колеру. Таму і фарбы ў іх былі толькі шэрыя. Яны не маглі маляваць іначай.

Аднойчы ў горад прыляцеў вецер і разагнаў хмары. Мастакі выбеглі на вуліцу — і не паверылі сваім вачам.

— Ой, якое прыгожае неба! — сказалі яны.

— Ой, якое прыгожае сонца! — сказалі яны.

— Ой, якое прыгожае лісце! — сказалі яны.

І адразу ж пачалі маляваць. Але атрымалася непрыгожа. Таму што ў іх была толькі шэрая фарба.

Сем мастакоў цяжка ўздыхнулі. Што ж ім рабіць? Як навучыцца добра маляваць? Тады адзін з іх сказаў:

— Сябры, пойдзем фарбы шукаць!

Узялі мастакі сем пэндзлікаў і сем вядзерцаў і пайшлі фарбы шукаць. Доўга вандравалі яны па белым свеце і ўсяму дзівіліся. А дзівіцца было чаму. Яны ж усё жыццё пражылі ў змрочным горадзе і не ведалі, што ёсць бялюткі рамонак з залацістай сярэдзінкай; што сонца ўдзень аранжавае, а ўвечары — малінавае. Яны любаваліся прыродай, многа спазнавалі і ўсё запаміналі.

Аднойчы мастакі падняліся на вяршыню самай высокай гары. Адтуль было відаць усё наўкол: і рэкі, і лясы, і лугі — увесь шлях, які яны прайшлі. Залюбаваліся мастакі і пачалі марыць:

— Ах, як бы я хацеў намаляваць мак! — сказаў адзін.

— А я сонца! — сказаў другі.

— А я дзьмухавец! — сказаў трэці.

— А я лісточак! — сказаў чацверты.

— А я неба! — сказаў пяты.

— А я званочак! — сказаў шосты.

— А я фіялку! — сказаў сёмы.

І як толькі яны гэта сказалі, на небе ўзнікла вясёлка. Убачылі мастакі вясёлку — і вачам сваім не паверылі.

— Ах, якія фарбы! — уздыхнулі яны.

— Я бачу фарбу, як мак! — сказаў адзін.

— А я, як сонца! — сказаў другі.

— А я, як дзьмухавец! — сказаў трэці.

— А я, як лісточак! — сказаў чацвёрты.

— А я, як неба! — сказаў пяты.

— А я, як званочак! — сказаў шосты.

— А я, як фіялку! — сказаў сёмы.

І раптам адзін канец вясёлкі апусціўся да самых ног мастакоў. І яны ўбачылі сем каляровых дарожак.

Чырвоную, як мак.
Аранжавую, як сонца.
Жоўтую, як дзьмухавец.
Зялёную, як лісточак.
Блакітную, як неба.
Сінюю, як званочак.
Фіялетавую, як фіялка.

— Ура! — закрычалі мастакі.
— Нарэшце мы знайшлі фарбы!

Кожны выбраў сабе любімую дарожку і пайшоў па ёй.

Прайшлі мастакі па ўсёй вясёлцы. І адразу ж пачалі маляваць. Ім не цярпелася даведацца, якога колеру фарбы ў іх вядзерцах.

Узялі мастакі вялікі ліст паперы і кожны па чарзе правёў па ім лінію сваім пэндзлікам. Атрымалася яркая, сямі колераў, вясёлка. Мастакі былі шчаслівыя. Цяпер яны маглі намаляваць усё, аб чым марылі.

А што з вясёлкай? Яна знікла. Таму што аддала ўсе свае фарбы. А калі пойдуць яе шукаць іншыя мастакі, яна зноў паявіцца і аддасць ім свае новыя фарбы.



### Пішуць школьнікі

**У НАШАЙ ВЁСЦЫ ЎЖО НЕ ТКУЦЬ...**

Калісьці жанчыны на вёсках ткалі вельмі прыгожыя дываны, найчасцей з воўны. Дываны былі каляровыя, у пераборы, у чатыры і ў шэсць ніцельніц, у розныя ўзоры — у клетачкі, палоскі, вінаград, кветкі і птушкі. Колер дываноў найчасцей быў чорны з чырвоным, з зялёным, час ад часу сіні з белым — каму які падабаўся. Хоць работа гэтая была нялёгкая, то пры ёй было многа песень і жартаў.

Хаця гэтыя самаробныя дываны цяпер ужо не такія модныя, мы думаем, што кожная дзяўчына хацела б атрымаць такі прыгожы дыван у пасаг.

Сёння ўжо мала хто займаецца такой творчасцю. Людзі купляюць дываны ў краме, хаця тыя не такія цікавыя. А гэта ўсё таму, што маладыя ўжо не ўмеюць ткаць. Шкада, што нашы мамы не змаглі нас гэтаму навучыць!

**Восьмы клас з Семяноўкі**

**ПОШТА „ЗОРКІ“**

Да **Ілоны Крупы** з IV класа бельскай „тройкі“: Ілонка, твой верш пра восень вельмі мне спадабаўся, надрукуем яго ў верасні. Чакаю тваіх новых вершаў.

Запрашаю ўсіх паэтаў — і тых, чые вершы ўжо гасцілі на „Зорчыных“ старонках, і тых, хто яшчэ саромеўся паказаць свае творы — прысылайце нам свае вершы. Можа, вершы пра вясну, першыя нашыя пачуцці, школу, свет?.. І радасныя, і сумныя. Часам цяжка выказацца перад дарослымі і сябрамі, не кожны нас зразумее. Напішаш верш, і хаця ён можа быць не найлепшы ў форме, а на душы лягчэй... Можа твой верш дапаможа ў чым-небудзь твайму равесніку, які яго прачытае ў нашай „Зорцы“?..

**Міра Лукша**

Уладзімір Мацвеенка

### ЗАГАДКІ

**ЗАЙКІ-ЗАГАДАЙКІ**

80

Месца ёсць у той калошцы
Хмарам, сонейку, вясёлцы.
Там аблокі, зоркі, месяц...
Хто яна, што толькі месціць?

81

Круглае вочка,
З яго прамень:
Навокал ночка,
На ветразі — дзень.

82

Хто бязгучна мякка ходзіць,
Хто без рук павейкі зводзіць?
Не відаць яго нідзе,
А на ложак спаць кладзе.

83

Я заўжды
Гасцей страчаю,
Вопратку іх
Я трымаю.

Адказ на загадкі знойдзеш у наступным нумары.

Адказ на загадкі з папярэдняга нумара: 75. Вадалаз. 76. Тралейбус. 77. Глобус. 78. Ізалятары. 79. На карце.

## Малюнкі школьнікаў



*Малюнак Ані Навумчык да казкі „Храбрае куранятка“.*

## Вершы Віктара Шведа

### ШТО ПАСТАВІЛІ?

Хворую сяброўку Олю
У хаце адведала.
— Выклікалі цябе ў школе
Сёння, каб ты ведала.

Справа гэтая Наталлю
Вельмі зацікавіла.
— Калі мяне выклікалі,
Тады што ж паставілі?

### ВЯЛІКІ НАРАДЗІЎСЯ ЧАЛАВЕК

Экскурсавод дзяцей знаёміць —
Што мае цэннасць, стары век.
— У гэтым нарадзіўся доме
Надта вялікі чалавек!

— Не можа быць! — пярэчыць
Пеця, —
Нехта ж тут здорава загнуў!
Малыя ж родзяцца нам дзеці,
А пра вялікіх я не чуў.

### ЦІ Б'ЮЦЬ БАЦЬКІ

— Які ж з цябе задзіра,
Гарэзлівы такі!
Скажы нам, толькі шчыра:
Ці б'юць цябе бацькі?

— Ой, б'юць, — азваўся Коля,
І б'юць мяне не раз!
— Каторае ж з іх болей?
— Хто толькі мае час.

### ТАК ВЫГЛЯДАЕШ, ЯК ЗАЎСЁДЫ

Падняўшыся Ясь з ложка рана,
У люстра зазірнуў, вядома,
І адазваўся нечакана:
— Нейк выглядаю па-дурному...

Пачуўшы гэтае, Ігнатка
Кажа з душэўнай асалодай:
— Не памыляешся, мой братка,
Так выглядаеш, як заўсёды.

### НЕДАРЭЧНАСЦЬ

— Недарэчнасцю здаецца
Гэта мне, на жаль:
Сталяром Міхась завецца,
Калі ён — каваль.

— Ты тут не дзівуйся дужа,
Гарэзлівы Клім.
Брытваю завешся, дружа,
А тупы зусім!

**Алесь Бачыла**

### КОЛЬКІ КОТ НАБІЎ ПАСУДЫ

Я расказваць вам не буду,
Колькі кот набіў пасуды,
Хай раскажа вам Валерка, —
Чайнік, супнік, дзве талеркі,
Ажно сем гаршкоў з-пад кветак
І ў дадатак — пяць разетак.
А спытаюць — скрывіць рот:
— Гэта ўсё праклятй кот...
„Кот — дык кот...“
І ўсё таму
З рук сыходзіла яму.
Мо сышло б і гэтым разам —
Не змахні з серванта вазу.
Ваза ў друз — Валерка ў пот:
„Як сказаць, што скінуў кот?
Хто ж паверыць той мане —
Кот жа вазу не скране.
Вось дык гора... Вось бяда...
Ды і коціка шкада —
Зноў пратураць за парог“.
Хлопчык больш ілгаць не мог.

Мама нават не журыла,
А за шчырасць пахваліла.
Рад Валерка,
Рада мама,
І, вядома, кот — таксама.
Мусіць, з радасці тае
Ён пасуды больш не б'е.




## Адгадывайце свае веды

### ПІШЧУХА ЗВЫЧАЙНАЯ

Пішчуха — птушка сям'і пішчухавых, атрада вераб'інападобных. Жыве ў лясах Еўразіі і Паўночнай Амерыкі. На Беларусі звычайны аселы від. Трымаецца па адной ці парамі. Восенню і зімой вандруе разам з чародамі сініц і попаўзняў; залятае ў паркі, сады, сядзібы. Корміцца жукамі( доўганосікамі, лістаедамі), раўнакрылымі (лістаблошкамі, тлямі), радзей павукамі, двухкрылымі, клапамі і іншым. Пры гэтым дбайна абшуквае ствалы дрэў, рухаючыся знізу ўверх па спіралі.

Даўжыня цела пішчухі — 7,5 см, маса 9-10 г. Апярэнне спіны шаравата-бурае з белымі стракацінамі, брушка шаўкавіста-белае. На галаве над вокам — белая палоска. Хвост двухраздзельны, завостраны, ступеньчаты, жорсткі, служыць апорай пры перамяшчэнні па ствалах дрэў. Дзюба доўгая (да 1,5 см), серпападобная, загнутая. На заднім пальцы доўгі кіпцюр (каля 1 см). Утварэнне пар пішчух — у сакавіку. Шлюбная песня — паспешнае меладычнае шчабятанне і свіст.

Пішчуха робіць гнёзды ў дуплах ці за адсталай карой дрэў на вышыні ад 1 да 3 метраў. Высцілка гнёздаў з пёраў, поўсці, павуціння. Першая кладка яек пішчух 5-7(8) белых з чырванавата-карычневымі плямамі і кропкамі — у красавіку-маі, другая з 4-6 штук у чэрвені. Пішчуха насяджвае іх 13-15 сутак. Птушаняты вылятаюць з гнязда праз 15-16 сутак. Да ліпеня-жніўня пішчухі трымаюцца вывадкамі.



## Пазнаёмімся

346523, СССР, г. Шахты, д. 38, кв. 5. **Литвиненко Александра** (збірае вокладкі ад жавачак, манеты).

✲

СССР, Ростовская обл., г. Шахты-23, ул. Цветочная 1, **Алексеева Ирина** (12 гадоў, хоча пазнаёміцца з дзяўчынкай 12-13 гадоў).

✲

220131, БССР, г. Мінск, вул. Мірашнічэнка, д. 9, кв. 24. **Трафімовіч Ірына** (15 гадоў, любіць спорт і жывёлу).

✲

222320, БССР, Мінская вобл., Маладзечанскі раён, п. Краснае, вул. Набярэжная, д. 35. **Казёл Зоя** (13 гадоў, збірае паштоўкі, каляндарыкі).

✲

223052, БССР, Мінскі раён, п/о Лясны, д. 5, кв. 53. **Каваленка Елізавета** (15 гадоў).

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А

Гэтыя тры кубікі трэба расставіць так, каб атрымаўся лік, які дзеліцца на 7.

Падказка: прыйдзецца прымяніць адзін фокус...




## Вясёлы куточак

На перон вакзала ў Гайнаўцы ўбягае задыханы хлапчук.
— Гэты цягнік — у Чаромху?
— Так, заходзь хутчэй, ужо ад'язджаем! — кажа чыгуначнік.
— Але я не еду ў Чаромху!

✲

Бабуля бачыць, як Марцінка гуляе са сваім маленькім брацікам.
— Як ты ім добра апякуешся...
— Вырасце, падзякуе мне...

✲

Заходзіць змораны Зайка ў спажывецкую краму.
— Колькі каштуе кропелька ліманаду?
— Нічога.
— Дык накапайце мне шклянычку!

✲

— Пеця, назаві чатыры жывёліны, якія жывуць у Афрыцы, — прапануе настаўнік.
— **Слон** і тры жырафы! — упэўнена адказвае Пеця.

### ВОЎК, КАЗА І КАПУСТА...

Аднаму чалавеку трэба перавезці праз рэчку ваўка, казу і качан капусты. Усе разам у лодку яны не ўмяшчаюцца. Чалавек можа ўзяць з сабой толькі штосьці адно: ці капусту, ці казу, ці ваўка. Можа, канечне, зрабіць некалькі рэйсаў праз раку, але... Ваўка нельга пакідаць сам-насам з казой, а казу — сам-насам з капустай. Ні на адным, ні на другім беразе!

Падкажыце чалавеку, як, зрабіўшы некалькі рэйсаў, паспяхова перавезці праз рэчку ўсё яго дабро. І каб усе былі цэлыя!




Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

